# НАШ СЬЦЯГ

Адрэс рэдакцыі і адміністрацыі: **Вільня, Віленская вул. 12, п. 6.** (Wileńska 12 m. 6).
Рэдакцыя адчынена ад **12** да **2** г. штодня апрача сьвяточных дзён. Адміністрацыя ад **9** да **3** г.

**Выходзіць тры разы у тыдзень.**
Падпіска **на адзін месяц** з дастаўкай да хаты **18.000** м. п.
Для заграніцы удвая даражэй.

Няпрынятыя у друк рукапісы назад не вяртаюцца.
Аплата надрукаванага залежыць ад Рэдакцыі.
Цана абвестак: перад тэкстам 3500 мк., сярод тэксту 3000 м. і на 4 стр. 2500 м., за радок пэтыту у 1 шпальт.

**№ 15** — **Нядзеля, 22-га ліпня 1923 г.** — **Год I.**

## Вынікі крызісу.

Вынікі страшэннага ўпадку цэннасьці польскае маркі выяўляюцца ў вельмі цікавай, ды шмат для каго неспадзяванай форме.

Мы маем на думцы той шырокі забастовачны рух, пачатак якому дала лодзінская ткацкая прамысловасьць.

Як вядома, ў меру паніжаньня вартасьці і пакупное сілы маркі растуць і цэны прадуктаў. Цэны на прадукты растуць пры гэтым так шыбка, што работніцкія масы, адтрымліваючы плату ў канцы тыдня, а то і ў канцы месяца, за зробленыя грошы ў канцы пэрыаду расплаты могуць набыць прадуктаў шмат менш, чым у пачатку гэтага-ж пэрыаду. А кожны далейшы пэрыад нясе працоўным масам усё вялікшае і вялікшае абніжаньне магчымасьці здаволіваньня іх жыцьцёвых патрэб,—коратка кажучы, нясе штораз горшую галадоўку.

Фабрыканты, падыймаючы цэны на свае вырабы ў меру узросту цаны даляра, зусім ня думаюць у такой-жа меры падвышаць плату сваім работнікам самахоць. Наадварот, кожны дадатак да заработнае платы работнікі прымушаны чуць ня гвалтам вырываць з горла прагавітых сваіх гаспадароў. Але гэта падгатаўляе грунт і дзеля больш вострых форм сацыяльнае барацьбы,—перад усім дзеля разьвіцьця работніцкіх забастовак.

Вось мы і бачым пачатак шырокага забастовачнага руху ў Польшчы, які распачалі лодзінскія ткачы.

Эндэцкія газэты, аднак, ня хочуць згадзіцца з тым, што работнікі пачынаюць хапацца за забастоўку, як за спосаб забясьпечаньня сабе магчымасьці істнаваньня, проста затым, што іх цісьне голад, а іншага спосабу барацьбы, яны ня бачаць. Эндэкі тлумачаць забастовачны рух выключна палітычнымі мэтамі: яны хочуць бачыць у ім вынікі не галадоўкі работніцкіх масаў, а вынікі проціdзяржаўнае агітацыі партыяў, варожых сучаснаму ладу ў Польшчы.

Мы не сумляваемся, што аддзяліць рух сацыяльны ад руху палітычнага—немагчыма. Ад таго, як урад адносіцца да работніцкіх дамаганьняў, ад таго, ці паліцыя займае нэйтральнае да забастоўкі становішча, ці страляе ў работнікаў, залежыць і ход забастоўкі, і вынікі яе. Вось чаму ў пісальнях эндэцкіх газэт ёсьць сваё каліва праўды. Вось, чаму ніколі нельга наперад сказаць, ці чыста эканамічная, "галодная" забастоўка ня выльлецца ў палітычны рух.

Разглядаючыся па суседніх з Польшчай дзяржавах, мы бачым, што палажэньне ў Польшчы можна прыраўнаваць бадай да аднае толькі Нямеччыны. Нямецкая марка, падаючы ўсё ніжэй і ніжэй, перагнала нават польскую: за адну польскую даюць ужо дзьве нямецкія! І тое, што мы тут сказалі аб выніках упадку цэннасьці валюты ў Польшчы, яшчэ больш ярка выяўляецца ў Нямеччыне.

Ужо характарную прамову аб палажэньні ў Нямеччыне і аб тамтэйшым работніцкім руху сказаў саксонскі міністар працы Граўпэ. У гэтай прамове міністар папераджае, што ўжо ў найбліжэйшым часе трэба ждаць па ўсёй Нямеччыне вострых праяўленьняў барацьбы паміж работнікамі і капіталістамі. Работніцкая кляса ў Нямеччыне знаходзіцца ў страшэнна цяжкім матар'яльным палажэньні. Каб выйсьці з яго, трэба раз ужо скончыць з коаліцыйным урадам і яго палітыкай угоды з буржуазнымі клясамі. Работнікі ў Нямеччыне ізноў нясуць кліч да клясавае барацьбы і павядуць яе з найвялікшай энэргіяй, ня спыняючыся перад ужываньнем самага страшнога аружжа.....

Словы чалавека, вельмі добра знаёмага з палажэньнем і настроямі работніцкае масы ў Нямеччыне, ёсьць прадвесьнікамі пагібелі тым, хто ня лічачыся з інтарэсамі работніцкай клясы, вядзе палітыку уціску, стварае эканамічную разруху.

**Лаўрыновіч.**

## Дэмакратычнае бязладзьдзе.

Галоўнай асаблівасьцяй грамадзкіх адносін у Польшчы — і ў усёй Заходняй Эўропе — ёсьць хаатычнасьць, бязладзьде, адсутнасьць пастаяннай раўнавагі, неякае бязмэтнае чаканьне, дваістасьць у ўсіх справах. Як вонкавае так і ўнутраное жыцьцё кожнай эўрапэйскай дзяржавы робіць уражаньне ладу, пастаўленага на кончыку іглы: найменшае ўздрыгненьне і ўсё паляціць і разваліцца. Людзі жывуць з дня на дзень і ходзяць як-бы з бязустанна растаўленымі рукамі, каб захаваць раўнавагу, каб ня ўпасьці.

Перадваенная капіталістычная дэмакрацыя, якая да сягоняшняга дня лічыцца за пануючую грамадзянскую сыстэму — сыстэму вызыску працы, сыстэму, якую быццам дабравольна прызнаюць і прыймаюць як эксплёататары, так і эксплёатаваныя. Зразумела, што такая сыстэма можа ўтрымацца да тых часоў пакуль эксплётаваныя не ўразумеюць яе — пакуль эксплёататары ня будуць змушаны ўзяцца за яўную перамогу і каб такім чынам адкрыць найважнейшую тайну дэмакратызму.

І гэта ўжо сталася, павінна было стацца, па вайне, калі моцная хваля работніцкага руху пагражала змыць з зямлі сьляды старога сьвету. Тое самае робіцца штодня і цяпер, калі капіталістычны лад, пераканаўшыся, што дэмакратычныя правы не задаваляюць, змушаны прыступіць да яўнага іх таптаньня, выклікаючы да жыцьця розныя арганізацыі як фашыстоўскія ці — як у Польшчы — арганізацыі, якія заховываюць статуты з царскіх ці пруска-габсбурскіх часоў.

Капіталістычная дэмакрацыя ёсьць ідэолёгічна зросшыся з нацыяналізмам: свабода і незалежнасьць кожнага народу вось адсін з яе клічаў. Гэтую свабоду і незалежнасьць аднак даволі труда здзейсьніць пры сучасных срэдствах прадукцыі, калі сапраўды ня істнуе самадзельна гаспадарчай тэрыторыі, калі бадай усе краіны на зямлі сплютаны ў адну цэласьць з гаспадарчага боку; гэтую свабоду і незалежнасьць трудна здзейсьніць яшчэ і дзеля таго, што сьветам уладаюць капіталістычныя дзяржавы, якія толькі і істнуюць дзеля таго, што эксплёатуюць слабейшыя народы.

Вось-жа пасьляваеннае падзяленьне сярэдняусходняй Эўропы на некалькі незалежных дзяржаваў стала дзеля таго, што яны былі патрэбны дужэйшым дзяржавам, — яны сталі залежнымі ад сваіх імпэрыялістычных дабрадзеяў і апякуноў.

Гэтыя незалежныя дзяржаўкі ёсьць з гаспадарчага боку калекамі.

Пры гэтым, кожнае з іх мае так зван. нацыянальныя меншасьці, з якімі ідзець адчаяная барацьба, а ўсе разам знаходзяцца ў руках вялікіх дзяржаваў якія гуляюць імі, як цацкамі.

Каб-жа хоць гэтыя ўладары мелі якісь адзін мэтад вызыску! Каб яны хоць былі здатны стварыць нейкую сыстэму, да якой так, ці інакш можна было-б прыладзіцца, дапасавацца! — Дык не — сярод гэтых уладароў і пераможцаў няма агульных інтарэсаў: кожны цягне да сябе і ніколі яны не згаворацца. Англія і Францыя — кожная пасвоему хоча эксплёатаваць Эўропу і так супярэчна, што нават зусім абязсіленую Нямеччыну ня могуць арганізованна выкарастаць.

Такая самая супярэчнасьць і бязсільле пануе і ўва ўсходня-сярэдняй збалканізаванай Эўропе. Польшча адчувае гэтае бадай штодня. Так напрыклад, у аднэй з найважнейшых спраў для Польшчы — справе Гданску, кожны шаг Францыі сустракае супярэчнасьць з боку Англіі — і наадварот. Адно што робяць гэтыя дзяржавы згодна, супольна, як з Нямеччынай так і з іншымі дзяржавамі, гэта перашкаджаюць урэгуляваньню трывалых гаспадарчых і палітычных адносін, згодна падтрымовываюць становішча чаканьня і няпэўнасьці, становішча ў якім замірае гаспадарчае жыцьцё, замірае ўсё, а ўзмацняецца і расьце узбраеньне, якое ёсьць агульным зьявішчам усім гэтым дзяржавам і дзяржаўкам.

Іх унутранае жыцьцё—распарадак таксама укладаецца. Няма такой клясы, якая змагла-б яўна ўзяць уладу ў свае рукі і ўладарыць згодна са сваей ідэалёгіяй. Ёсьць дэмакратычнае ашуканства, дваістасьць, супольнне аграбленьне, невыкананыя абяцанкі. У Польшчы ўрады „правіцы" ня розьняцца ад урадаў „лявіцы"—той самы бязлад, беспраграмнасьць, тая самая трывога перад работніцкім рухам.

Але жыцьцё наагул ані гасьне, ані ня ўмірае і пад карой гніючых арганізацый і дэмакратычных разваг творацца новыя формы, якія шпарка шыкуюцца, каб выступіць наверх.

Сярод дэмакратычнага бязладу, пад карой перажытых законадаўстваў выклёвываюцца дзьве справы:— з аднаго боку бязустанна ўзрастаюць капіталістычныя трэсты, а з другога боку шпарка ідзе абядненьне шырокіх мас працоўных.

Ужо ня толькі гарадзкі работнік, ня толькі працоўнік вёскі, але нават урадовыя і прыватныя служачыя страшэнна хутка апускаюцца на дно нэндзы. Калі да гэтага дабавіць, што капіталістычная дэмакрацыя ашукала масы абяцанкай даць волю і роўнаупраўленьне ўсім народам, калі зазначым што сучасная незалежнась ёсьць для большасьці насяленьня толькі замаскаванай формай няволі ў міжнародным капітале. Ня трэба быць прарокам, каб не прадбачыць, што масы гэтыя раней, ці пазьней загаворацб аб сваіх правох.

Тое, што ў Польшчы называецца „правіцай", зачыняе вочы на будучыну і жадае толькі выкарыстаць з чаго магчыма і як найболей, а пасьля яе хоць патоп. А так называемая „лявіца", альбо бязрадна кекшыцца ў блутаніне супярэчных паглядаў і праграм, альбо таксама сама сябе ашуківае малой верай у цуды дэмакратычных прынцыпаў, якія, быццам, змогуць вывясьці жыцьцё з бязладзьдзя.

Работніцкая кляса, якая трэзва глядзіць на ўсе справы, разгледзіўшы сілы, праяўляючыя дзейнасьць у гэтым бязладзьдзі, прышла да моцнага перакананьня, што хутка, вельмі хутха прыбліжаецца катастрофа.

**Гэль.**

## Трывога.

Уся заходняя Эўропа ахоплена трывожным прадчуцьцём, прадбача бурлівыя падзеі, нямінучую катастрофу.

Пасьля сусьветнай вайны капіталістычныя дзяржавы пачалі ад бесканечных конфэрэнцыяў, на якіх прызывалі да згоднага сужыцьця, да разбраеньня, кляліся ў міралюб'і і, да нічога не дагаварыўшыся, разьязджаліся затаёнными ворагамі, што нікому не ўдалося словам ашукаць, падняволіць другога. Побач з конфэрэнцыямі пашлі окупацыі, — слова замяніла чын, аружжа. Грэка-турэцкая вайна, Клайпэда, урэшце Рур ёсьць вынікі гэтай нясумленнай буржуазнай палітыкі. Кожны пачынае разумець, што закон і справядлівасьць там, дзе грубая сіла, што той праў, чый верх і панаваньне. Эўрапэйскія буржуазныя дыпляматы ўжо зьнялі з сябе маскі крылатых слоў і прыкіданьне ў добрых апякуноў ці прыяцеляў — іх імпэрыялістычная прагавітасьць аскаліла зубы і безцэрамонна сярод белага дня грабіць што можна і дзе можна, адзін у другога з пад рук. І ня доўга трэба чакаць, калі гэтыя прадстаўнікі выміраючай буржуазнай клясы, эка-

дасьледаваць выйсьце зямных пародаў, асабліва старадаўніх, якія ляжаць пад наносамі ледавіковых глін і пяскоў, прасачыць глыбіню іхнага заляганьня, згуртаваць усе данныя геолёгічнае літэратуры і ўсіх сьвідраваньняў, якія праводзіліся на тэрыторыі Беларусі, ды праверыць іх,—дасьць магчымасьць пранікнуць навуковаму вэку ў „тайны“, якія хавае прырода пад нашымі глебамі; гэта дасьць грунт для разьвіцьця прамысловасьці, бо за вокам навукі ідзе сьледам цыркуль інжэнэра і малаток рабочага.

Каб значна спасьпешаствавацъ працы і зрабіць досьледы болей таннымі для дзяржары, праф. Тарлецкі склаў „апросны ліст“ і брашуру „Краткие указания к собиранию сведений о некоторых глинах, песках и камнях Белоруссии“. Гэта брашура разам з анкетным лістом раздаецца студэнтам І. С. Г., Белпэдтэхнікуму ды іншым, а таксама будзе разаслана „Госплянам“ па вал. вык. камітэтах.

Праф. Б. К. Тарлецкі, малады яшчэ чалавек, з асьветай горнага інжэнэра, мае свае навуковыя працы і значны навукова-практычны стаж пры дасьледаваньнях Дагэстану (Каўказ), Алтаю (Сібір), Мурману ды інш. Ён зацікавіўся нашым краем і шчыра ўкладае ў падгатоўку экспэдыцыі свой вопыт і здольнасьці.

У першую чаргу будзе дасьледавана Ігуменшчына, затым раён Койданава і г. д.

## Весткі з вёскі.

### Забарона прыватных лекцыяў у хатах.

У Вялікіх Жуковічах Несьвіжскага павету жывець старая вучыцелька, 75 гадоў веку, Мар'я Аудзеева, якая дабывала сабе на старасьці гадоў кавалак хлеба тым, што вучыла чытаць і пісаць дзяцей сваіх знаёмых за харчаваньне, або за невялікую плату. Некаму гэта не спадабалася. Каму — невядома. Але вось адзін паліцыянт Жуковіцкага пастарунку прымушае гэтую старую кабету даць падпіску, што яна ня будзе далей даваць прыватных лекцыяў без спэцыяльнага на гэта дазволу павятовага старасты. Бедная кабета дала падпіску—падпісала сабе прыгавар на галодную сьмерць. А што-ж, скажэце, было ёй рабіць?

**Спачуваючы.**

### Ня лёгка ўтрымліваць цяпер zarząd gminy.

У нашай Леонпальскай гміне, Дзісьненскага павету сэкрэтаром служыць нейкі пан Зьмітровіч, прысланы сюды ад Глыбоцкага Староства увосень 1922 гаду. Ці гэнаму пану зашмат працы ў нашай воласьці, што ня можа ўправіцца адзін, ці ён надта папанску прывык працаваць, але дужа дзіўна, што трымае ён аж 3 памоцнікаў, а нам-жа, сялянам, прыходзіцца усіх іх аплачаваць. Сэкрэтар у месяц бярэць цэлы мільён марак, памоцнікі—па поўмільёна, а тут яшчэ калі падлічыш, што на пэнсіі-ж у нас цяпер і войт, і абвадовыя солтысы і члены гміннай Рады, дык—дапраўды—дорага, надта дорага абходзіцца нам утрыманьне ўсяго гэтага гміннага начальства. Я ўжо тут не чапаю падаткаў павятовых, дзяржаўных, якія таксама, калі нават ня больш, кусаюцца, але як ня бачыш блізка на каго яны ідуць, дык ня так крыўдна. А то тут, у гміне, на вачч,—і на гарэлку трацься, і пэнсію плаці — бяда ды і толькі. Ласкавы да чарачкі Пупін, войт нашай гміны—ніколі не адкіне. А сэкрэтар... дык і што там гаварыць: як прыехаў быў у гміну на рэвізію ў марцы гэтага году нейкі рэфэрэнт ад староства, дык сэкрэтара не паказалі яму і на вочы, бо пьяны быў, як мярцьвяк. А ты марачкі плаці на іх. Бяда ды і толькі, а дарадзіць гэтаму ня можам ніяк.

**Радны.**

### Вёска Дрычын, Ігуменскага п.

Наш гурток істнуе тры месяцы.

Гурток працоўнай моладзі канчаткова сфармаваўся, выкінуўшы шкоднікаў культурна-асьветнай працы, галоўным чынам, тутэйшае настаўніцтва, прыняў выпрацаваны бышым кіраўнікам пазашкольнай асьветы ўстаў і разьвярнуў сваю працу ня толькі ў сваёй вёсцы, але і па другіх кутках воласьці, як, напрыклад, у Баравой Слабадзе, што ў сямёх вярстох ад нашай вёскі, дзе адрамантаваў сцэну і ставіць спэктаклі, канцэрты і іншае.

Па гэты час гуртком пастаулены цэлы шэраг спэктакляў, і паміж п'есаў такія: 1, „Страньнік“ 2, „Зьбянтэжаны Саўка“ 3, „Сначала научісь, а потом женісь“ 4, „Сон Крестьянина“ 5, „Красный генерал“ 6, „Пасланец“ 7, „Мікітаў лапаць“. Апрача гэтага адбываюцца мітынгі, даклады, лекцыі і канцэрты на розныя тэмы бягучага жыцьця і навукі. Гурток ужо рыхтуецца пашырыць сваю працу яшчэ на дзьве воласьці, дзе няпрыкметна гэтай працы. Гурток працуе ідэёва, часта задарам, а часам бярэ ня больш тры рублі з асобы, якія пушчае на свае патрэбы, паветраны флёт, газэты і іншае. Гурток працуе пад кіраўніцтвам б. камісараў чырвонай арміі. Гуртку ёсьць пагрозы зьнішчэньня яго працы з боку тутэйшага кулацкага настаўніцтва, на што павінна ўзяць увагу, каму належыць.

**Бруякін.**

## Допісы.

### Беларусы у Амэрыцы.

#### Арганізацыя беларусаў ў Кэношэ.

(ад уласнага карэспандэнта)

У Кэношэ, Віск. налічываецца даволі многа беларусаў. Выхадцамі зьяўляюцца галоўным чынам каталікі, а пасьля праваслаўныя беларусы з беларускіх губ.: Менскай, Віленскай і Горадзенскай.

24 чэрвеня адбыўся першы сход беларусаў ў Касьцюшка Гроў. Народу сабралася вельмі многа. Было, каля 1.000 асоб. Усе прышлі паслухаць прамову грам. Антона Змагара аб становішчы Беларусі. Прамоўца даволі падробна інфармаваў аб долі, цяжкім жыцьці Беларускага Народу ў старой Бацькаўшчыне. Прамова была выслухана ўсімі, нягледзячы на рэлігійныя, ці палітычныя пераконаньні з вялікай зацікаўленасьцяй і на ўсіх зрабіла вялізарнае ўражаньне. Сабрана было 23 дал. і 93 сенты на помач беларускім сіротам ў Заходняй Беларусі. Гэтыя грошы перашлюць самі Кэношаскія беларусы Беларускаму Цэнтральнаму Камітэту пацярпеўшым ад вайны. Пасьля адбылося паседжаньне Сяброў Народнага Брацтва супольна з прадстаўнікамі Беларускага Чыкагскага Камітэту Януком Жукавым і Піліпам Міхайлоўскім, якія інфармавалі аб грамадзкай працы у Чыкаго, знаёмілі аб культурна-прасьветнай дзейяльнасьці Беларускага Народнага Таварыства ў Злучаных Штатак і Канадзе і прызывалі кэношцаў да арганізацыі гэткага таварыства ў сябе. Таварыства гэта павінна мець мэту: вясьці культурна-прасьветную працу сярод мясцовай беларускай калёніі, аказываць помач сваім сябром, а таксама і матар'яльную дапамогу Беларускаму Народу ў старой Бацькаўшчыне. Проект Чыкагскіх беларусаў быў прыняты з вялікаю радасьцю і з вялікім энтузыязмам. У той-жа дзень быў заснованы Камітэт для арганізацыі Беларускага Народнага Тав. ў Кэношэ, Вісконсін.

Зроблены захады аб устройстве ў працягу восені і зімы некалькіх вечароў на дапамогу нашым братом ў Краі.

**Марцін Калінік.**

26. VI. 23.
Кэноша, Віск.

## Усячына.

### Вайна—найвялікшае зло.

Мінуўшая ўсясьветная вайна прынясла 18 мільёнаў ахвяр людзьмі, а колькі пакалечаных, бадай усе перахварэлі заразнымі хваробамі, а голад і недаяданьне ўшчэнт морацъ людзей—ідзе кволасьць і выміраньне.

Апрача ахвяр людзьмі мінулая вайна нарабіла страт 250 мільярдаў даляраў, вартасьць якіх калі паравясьці на серабро, дык трэба 468.720.000 пудоў серабра.



## Курс на грошы.

**Варшава 20 ліпеня.**

| | |
|---|---|
| Даляры | 128.000 |
| Бэльгійскія франкі | — |
| Нямецкая марка | 0.37 |
| Франкі | 7.650 |
| 10 руб. золатам | — — |

### Сэкрэтарыяты Беларускага Пасольскага Клюбу.

1) **Вільня**, Віленская вул. 12, кв. 6.
2) **Ліда**, 1 Слабодка 8.
3) **м. Глыбокае**, Дзісьненскага пав. вул. Сенкевіча 46.
4) **Жодзішкі**, Сьвянцянскага павету кс. Годлеускі.
5) **Наваградак**, Вялікі Рынак 14.
6) **Нясьвіж**, Альбянская 28.
7) **Столбцы**, Шпітальная 22.
8) **Горадня**, Мастовая 9.
9) **Бельск**, Замкавая вул. 3, кв. 1
10) **м. Саколка**, Горадзенская вул. 34.
11) **м. Кляшчэлі**, Бельскага павету.
12) **м. Крынкі**, Горадзен. павету, Горадзенская вул. 34.
13) **Пружаны**, Вуліца кс. Буткевіча, 16.
14) **Беласток**, Нова-Варшауская вул. № 83.

**Беларускі Пасольскі Клюб**, Варшава, Вейская вул. Сойм.



Рэдактар-выдавец Я. Лагіновіч.

Друкарня Левін і Сын, Нямецкая 22